*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года №44 (679) 10 ЛІСТАПАДА 2004 г.

## У МЕНСКУ АДКРЫТЫ ПОМНІК НА МАГІЛЕ В. БЫКАВА

Цырымонія адкрыцця помніка на магіле народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (19.06.1924—22.06.2003) адбылася на Усходніх могілках Менска вечарам 2 лістапада, у дзень памінання продкаў (Дзяды).

Помнік уяўляе сабой валун шэрага фінскага граніту, устаноўлены на пастаменце з малахіту і чорнага граніту. Гэты камень быў прывезены ў Менск сёлета ў канцы чэрвеня віцэ-прэзідэнтам фінскага ПЭН-клуба Юкка Маліненам і беларускім паэтам Уладзімірам Някляевым з прадмесця Хельсінкі Вуасаары. Там на ўзбярэжжы Балтыйскага мора пекаторы час жыў В. Быкаў.

На камяні золатам выбіты аўтограф пісьменніка, даты яго нараджэння і смерці. На зваротным баку валуна — таблічка з тэкстам на фінскай і беларускай мовах: "Васілю Быкаву ад горада Хельсінкі".




Больш чым 300 чалавек з прыспушчанымі бел-чырвона-белымі сцягамі сабраліся на цырымонію адкрыцця помніка. Пры святле свечак адбыўся мітынг, які пачаўся памінальнай малітвай уніяцкага і праваслаўнага святароў, якія дабраславілі помнік.

Паэт У. Някляеў адзначыў, што прысутныя сабраліся, каб "выканаць апошнюю волю Быкава". "Чаму на магіле аднаго з самых годных сыноў Беларусі не беларускі камень, а гранітны валун з Фінляндыі, дзе нядоўга пражыў пісьменнік? Менавіта так праявіў сваю апошнюю волю чалавек, які нікólі і нічога не вырашаў выпадкова. Быкаў пакінуў нам і нашым нашчадкам геніяльную загадку, пасмяротную прытчу, легенду з назвай "Быкаўскі камень", твор з глыбіннай метафарай і сюжэтам, які будзе поўніцца новымі загадкамі і запісваца ў розных варыянтах", — сказаў У. Някляеў.

Паводле слоў паэта, лёсы В. Быкава і Беларусі непарыўна звязаныя. "16 гадоў таму, на Дзяды, менавіта ад Усходніх могілак дарогай на Курапаты ўзнялася хваля нашага сучаснага нацыянальнага адраджэння, адным з сімвалаў якога быў і застаецца Васіль Быкаў — чалавек непакорнай волі, нязломнага духу", — падкрэсліў паэт. Паводле яго слоў, сусветная літаратура не ведае другога такога прыкладу, калі надмагільны помнік пісьменніку ахвяруе сталіца іншай дзяржавы. У. Някляеў выказаў падзяку фінам, якія ацанілі маштаб асобы і таленту В. Быкава і, паводле яго слоў, зразумелі сэнс, заключаны ў яго апошняй волі.

Пасол Фінляндыі ў Літве Ціма Лахелма, вітаючы прысутных ад імя ўрада і народа сваёй краіны, сказаў, што вялікі пісьменнік быў бясстрашным змагаром за правы чалавека і дэмакратычныя каштоўнасці. "Суровая праўда і бескампраміснасць яго твораў часта выклікалі нападкі афіцыйнай крытыкі. Творчасць Быкава ведаюць і паважаюць у Фінляндыі. Але самае галоўнае тое, што мая краіна змагла стварыць для пісьменніка нармальныя ўмовы для працы на апошнім этапе яго жыцця. У канцы 90-х гадоў у прыгарадзе Хельсінкі Вуасаары Быкаў знайшоў спакой, які быў неабходны для яго творчасці на доўгім шляху дадому", — сказаў дыпламат.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч заявіў, што "ў гэты гістарычны момант многія з нас моляцца не толькі за супакой душы Васіля Быкава, але і за адраджэнне, за новы светлы дзень нашай Беларусі". "І чым раней кожны з нас стане такім жа мужным, непахісным і цвёрдым, як гэты надмагільны валун, тым хутчэй прыйдзе беларускі світанак".

Паводле слоў пасла ЗША ў Беларусі Джорджа Крола, як Васіля Быкава лічаць сумленнем Беларусі, так і ён, Дж.Крол, лічыць Беларусь сумленнем Еўропы. "Немагчыма перабольшыць ролю Васіля Быкава ў гісторыі і культуры вашай краіны", — сказаў дыпламат. Ён выказаў пачуццё шчырай салідарнасці амерыканскага народа з народам Беларусі.

Кіраўнікі дыппрадстаўніцтваў ЗША і краін Еўрасаюза ўсклалі кветкі да магілы пісьменніка. Цырымонія завяршылася выкананнем гімна "Магутны Божа".

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

### Інфармацыя

**Грамадская камісія па зборы сродкаў на ўшанаванне памяці Васіля Быкава інфармуе, што на стане на 2 лістапада 2004 г. былі сабраныя ахвяраванні ў суме 980 700 беларускіх рублёў і 73 даляры ЗША.**

**Далейшыя ахвяраванні могуць рабіцца праз РГА "Беларускі ПЭН-Цэнтр", ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і РГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".**

**Грошы будуць выкарыстаныя на мэты, вызначаныя найбліжэйшымі сваякамі В. Быкава.**

## У МЕНСКУ ПРАЙШЛА АКЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ДНЮ ПАМЯЦІ ПРОДКАЎ

Устанаўленнем крыжоў, ускладаннем кветак і чытаннем "Малітвы за Беларусь" ва ўрочышчы Курапаты на ўскраіне Менска завяршылася 31 кастрычніка шэсце, прысвечанае Дню памяці продкаў "Дзяды". Ён адзначаецца 2 лістапада.

Гэтая традыцыйная восеньская вулічная акцыя была арганізавана Кансерватыўна-хрысціянскай партыяй БНФ. Каля 1000 яе ўдзельнікаў сабраліся да 11 га-дзін ля станцыі метро "Парк Чалюскінцаў" і праз тры гадзіны прыйшлі ва ўрочышча Курапаты, дзе да іх далучыліся яшчэ каля 50 чалавек. Паколькі традыцыйны мітынг у Курапатах не быў санкцыянаваны ўладамі, удзельнікі акцыі абмежаваліся чытаннем малітвы і спяваннем песень. Сярод прысутных быў распаўсюджаны зварот лідэра КХП-БНФ Зянона Пазняка "Моцныя Дзяды" і заява выканаўца абавязкаў старшыні партыі ў Беларусі Юрыя Беленькага з тлумачэннем прычын змянення фармату мерапрыемства.

*Дзмітры УЛАСАЎ.*



***На здымку:** Сябры ТБМ Алег Трусаў і Мікола Лавіцкі падчас шэсця ў Курапаты распаўсюджваюць беларускую літаратуру і збіраюць ахвяраванні. Было сабрана 102 970 рублёў ахвяраванняў на дзейнасць ТБМ.*

## 29 КАСТРЫЧНІКА ВА ЎРОЧЫШЧЫ КУРАПАТЫ АДКРЫТЫ ДВА ПАМЯТНЫЯ ЗНАКІ АХВЯРАМ СТАЛІНІЗМУ

29 кастрычніка ва ўрочышчы Курапаты адкрыты два мемарыяльныя знакі ахвярам сталінізму. Яны ўстаноўлены па ініцыятыве прадстаўнікоў беларускай грамадскасці, якія займаюцца тэмай захавання Курапат і ўвекавечання памяці ахвяр палітычных рэпрэсій 1930—1940-х гадоў.

Першы знак уяўляе сабой стэлу з чырвона-шэрага граніту, на якой выяўлены магендавід (зорка або шчыт Давіда), які азначае жаночы і мужчынскі пачатак, а таксама іўдзейскі семісвечнік менора. Ён сімвалізуе святло, веру і надзею, якія на працягу чатырох тысяч гадоў пакутваў вялікі яўрэйскі народ да мары аб дасягненні справядлівасці паміж людзьмі і нацыямі. На стэле тэкст "Нашым адзінаверцам-іўдзеям, братам па Кнізе – хрысціянам і мусульманам – ахвярам сталінізму ад беларускіх габрэяў", які паўтараецца на мове ідзіш.

У стварэнні знака бралі ўдзел вядомыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі — кінарэжысёр Юры Хашчавацкі, мастак-рэстаўратар Аляксандр Астравух, грамадска-палітычны дзеяч і гісторык Алег Трусаў, а таксама старажылы Менска розных нацыянальнасцяў. Гэта яны прапанавалі вырабіць знак з гранітнай пліты, якая захавалася ад п'едэстала помніка Іосіфу Сталіну, які да 1962 года высіўся на плошчы імя Сталіна (цяперашняя Кастрычніцкая) у Менску. Спонсарам праекта выступіў чалавек, які пажадаў застацца ананімным.

Другі знак устаноўлены на месцы расстрэлу органамі НКУС БССР 74 чалавек вясной-летам 1940 года. Дзякуючы захаваным квітанцыям на канфіскаваныя грошы ў вязняў Гарадзенскай турмы ў 1998 годзе з многіх тысяч ахвяр, забітых у Курапатах, удалося ўстанавіць імёны толькі двух — Мойшы Крамера і Мардэхая Шулькеса.



*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*



## ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

**Падрыхтавала Ірына Марачкіна**

*(Працяг. Пач. у пап. нум.)*

**1999 год.**

**11 траўня.**

У сядзібе ТБМ улады шукалі бомбу. Калі прыехалі тэлевізійшчыкі на чале з Юрыем Хашчавацкім, яны зніклі. Алег Трусаў з гэтай нагоды зазначыў: "Тут галоўная бомба для ўладаў — беларуская мова".

**13 траўня.**

На паседжанні сакратарыяту зарэгістравана Берасцейская гарадская арганізацыя ТБМ, суполка ТБМ Віленскага цэнтра "Дэмакратыя дзеля Беларусі".

**14 траўня.**

На паседжанні Рэспубліканскай рады абмеркавана праграма сп. Шастаковіча выкладчыка Нацыянальнага тэхнічнага універсітэта па беларускай мове для тэхнічных вышэйшых установаў, а таксама пытанні, звязаныя з святкаваннем 10-х угодкаў ТБМ і правядзеннем устаноўчай канферэнцыі Менскай абласной і чарговай канферэнцыі Менскай гарадской арганізацыі ТБМ. Зацверджана кандыдатура Ірыны Марачкінай на пасаду адказнага сакратара ТБМ.

**10 чэрвеня.**

Прынятае рашэнне аб арганізацыі ў сядзібе ТБМ Кніжнага клуба. Ініцыятыва — сябра ТБМ Змітра Цехановіча.

**17 чэрвеня.**

Зацверджаны план работы Кніжнага клуба на ліпень-жнівень. Першыя заняткі — 11 ліпеня. Тэма: Беларуская літаратура 20-х гг. XX ст.

**27 чэрвеня.**

Прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 10-годдзю заснавання ТБМ. У касцёле св. Сымона і Алены адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады, святочны канцэрт, а ўвечары — адмысловая імша за беларускую мову, якую правіў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Набажэнствы за беларускую мову прайшлі ў многіх праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанцкіх храмах, у тым ліку ў Жыровіцкім манастыры, Петрапаўлаўскім саборы ў Менску. 26 чэрвеня за беларускую мову маліліся ў мячэцях беларускіх татараў.

У рамках святкавання праведзена Гарадзенская абласная ўстаноўчая канферэнцыя. Старшынём абраны Алесь Місцюкевіч.

**15 ліпеня.**

Прынята заява сакратарыяту з нагоды перамогі пад Грунвальдам: "На Грунвальдскім полі была выратавана беларуская мова."

*(Працяг у наст. нумары.)*

# "Каб ні Ўсходняй, ні Заходняй ты была сама сабой"

***Максім Лужанін***



Так сталася, што імя Максіма Лужаніна, Аляксандра Амвросевіча Каратая я ведаў яшчэ з школьных часоў. Але ніколі не думаў, што прыйдзе такі час, калі мне пашчасціць асабіста пазнаёміцца з гэтым вельмі цікавым паэтам, сапраўдным беларускім інтэлігентам. Гадоў 20 таму (я думаю, што гэта быў недзе пачатак 80-х), дзякуючы майму вельмі добраму і блізкаму сябру Барысу Сачанку — цяпер, на вялікі жаль, нябожчыку — я пазнаёміўся з Аляксандрам Амвросевічам. У той час я жыў на вуліцы Пуліхава, літаральна праз некалькі дамоў ад Барыса. Вечарамі, даволі часта, мы выходзілі гадзін у 8-9 вечара пагуляць уздоўж Свіслачы. Бывала, да нас далучаўся Анатоль Вярцінскі. Часам тыя вандроўкі працягваліся да гадзіны ночы. Неяк аднойчы Барыс сказаў: "А вунь, насупраць, дом Лужаніна. Можа зазірнём. Сёння якраз яму тэлефанаваў і гаварыў, што зайду на агеньчык".

Апошняе дзесяцігоддзе Лужанін жыў адзінока. Пасля смерці дачкі — калі я не памыляюся, памер-ла яна ў Малдове — практычна ўвесь час ён бавіў з Яўгеніяй Эргардаўнай Пфляўмбаум, сваёй жонкай, вельмі тонкай, вельмі цудоўнай беларускай паэткай, на вялікі жаль, не ацэненай належным чынам. І Барыс быў для Лужаніна ў нейкім сэнсе як сын. Не было таго тыдня, каб ён не наведаў Лужаніна. Як правіла, заходзіў не з пустымі рукамі. Прыносіў цікавы часопіс ці апошнюю газету, нейкую новую кнігу, калі выдаваў нешта сваё, свежае. Бывала — пляшку гарэлкі, нешта з пачастункаў да калядных святаў ці якой-небудзь іншай нагоды. Канечне, прапанова Сачанкі наведаць Лужаніна была для мяне нечаканай. Я вельмі здзівіўся, што так знянацку можна зайсці да вядомага паэта, але з радасцю прыняў прапанову, і мы рушылі да Аляксандра Амвросевіча. Лужанін сустрэў мяне крыху насцярожана. У той час я працаваў сакратаром Менскага гаркама партыі. Для яго было дзіўна, што партыйны функцыянер, дастаткова яшчэ малады чалавек, імкнуўся размаўляць па-беларуску. У тыя часы такое назіралася даволі рэдка. Мне ж гэта было даспадобы, таму што неяк інтуітыўна я цягнуўся да творчай інтэлігенцыі. Вельмі хацелася зразумець, чым жывуць гэтыя людзі, тым больш, што ўжо пачыналася перабудова, адбываліся вельмі эмацыянальныя сходы ў Саюзе пісьменнікаў, на якіх я прысутнічаў. І канешне для мяне важна было пазнаць гэтае жыццё як быццам знутры. Зразумець, чым цікавяцца, чым жывуць пісьменнікі. І вось так тыдзень за тыднем мы паступова пачалі сустракацца. Што прыцягвала да Лужаніна? Перш за ўсё, гэта яго незвычайны стыль паводзінаў: вельмі шляхетны стыль. Разважлівы, ён з вялікай павагай ставіўся асабліва да незнаёмых людзей. І ў той жа час адчувалася велізарная ўнутраная культура. Я заўсёды гаварыў і буду паўтараць, што Лужанін быў адным з апошніх сапраўдных беларускіх інтэлігентаў.

Нарадзіўся ён у далё-кім 1909 годзе у вёсцы Прусы, што ў Слуцкім раёне, у простай сялянскай сям'і. Ён яшчэ заспеў Слуцкі збройны чын. Паказваў мне Слуцкую гімназію, дзе збіраліся паўстанцы. Яму вельмі, вельмі пашчасціла ў тым, што ў тыя часы ён апынуўся ў Менску, калі ў беларускім педтэхнікуме выкладаў і Купала, і Колас, і Ігнатоўскі. Ён бываў у іх дома. Лужанін атрымаў па тых часах вельмі фундаментальную беларускамоўную адукацыю, таму што, мне здаецца колішні Менскі белпедтэхнікум можна прыраўняць да сённяшняга інстытута. А потым быў БДУ, захапленне вершамі, даволі складаныя адносіны ў розных маладзёжных арганізацыях. Нарэшце дастаткова загадкавы арышт, Сібір. І здаецца, што вось у гэтым перыядзе жыцця ў Лужаніна была нейкая таямніца, пра якую ён не вельмі хацеў гаварыць. Не тое, што штосьці хаваў, але нешта недасказанае было ў тым, калі ён пачынаў каментаваць падзеі, звязаныя з яго арыштам, высылкай у Сібір, а потым нечаканым вяртаннем у Маскву. І тым не менш, нашы гаворкі тычыліся не толькі нейкіх літаратурных падзей. Дзякуючы Лужаніну, я праходзіў у нейкім сэнсе своеасаблівы літаратурны універсітэт. Уважліва слухаў, запамінаў, распытваў, задаваў мноства пытанняў. Менавіта тады я даведаўся вельмі многа пра падзеі, звязаныя з харакіры, якое ўчыніў Янка Купала, і пра тайну, звязаную з ягонай смерцю. Пра гэта вельмі многа ведаў і распавядаў Сачанка. Мы маглі гадзінамі размаўляць на розныя тэмы: і палітычныя, і інтэлектуальныя. Нас яднала тое, што мы былі бібліяфіламі, збіралі кнігі, рарытэты, марылі, каб знайсці першае выданне Скарыны, чыталі вершы. Лужанін вельмі цудоўна чытаў рускія вершы, выдатна ведаў творчасць Сяргея Ясеніна, якім захапляўся ў 20-30 гады. Лужанін — адзін з бліскучых беларускіх перакладчыкаў многіх расійскіх, і польскіх паэтаў. Ён выключна ведаў творчасць Міцкевіча. У ягонай бібліятэцы знаходзіўся 10-томнік, адно з лепшых выданняў Адама Міцкевіча на польскай мове. У яго былі вельмі цікавыя і каштоўныя працы польскіх этнографаў канца 19 — пач. 20 ст., якія датычыліся тэрыторыі Беларусі, і ў прыватнасці Палесся. Увогуле, гэта быў адзін з самых адукаваных людзей. Я быў сведкам і ўдзельнікам своеасаблівых спаборніцтваў паміж Сачанкам, Вярцінскім, Лужаніным, таму што кожны з іх — гэта інтэлект. Я з захапленнем гадзінамі бываў у гэтай кампаніі. Цікава было сачыць, як Лужанін мог узяць простае беларускае слова, напрыклад, "парастак" ці "шэрань" і праводзіць нейкія паралелі, гаварыць пра асаблівасці выкарыстання таго ці іншага слова ў розных рэгіёнах Беларусі. Яго веды па беларускай мове можна параўнаць хіба толькі з ведамі Фёдара Янкоўскага, Янкі Брыля, літаральна некалькіх вядомых нашых навукоўцаў ці пісьменнікаў. Ён ведаў беларускую мову глыбінна, інтуітыўна. Часам выкарыстоўваў такія словы, што я толькі здзіўлена потым пляшчыма, пытаўся ці шукаў іх у слоўніку. Дзякуючы Максіму Лужаніну, Барысу Сачанку, Анатолю Вярцінскаму, Янку Брылю, Максіму Танку, з якім я таксама быў у вельмі добрых стасунках, я паглыбіў свае веды, таму што ў тыя часы партыйнаму работніку гэта было проста неабходна, як паветра. А потым пачаліся нашы знакамітыя слуцкія чытанні. Яны былі звязаны з тым, што неяк па прапанове Лужаніна, які вельмі хацеў наведаць сваю малую Радзіму, мы выбраліся ў Слуцк, заехалі да знаёмых, сустрэліся з інтэлігенцыяй. І хоць Слуцк знаходзіцца ўсяго за 100 км ад Менска, там пануе іншая беларуская гаворка, больш мяккая, больш лагодная. Шмат такіх выразаў, якія не сустракаюцца ў сучаснай класічнай літаратурнай мове. Адчуваецца украінскі уплыў. Там, напрыклад, на рынку не гавораць "мяса", а гавораць "м'ясэ", як пяюць, вельмі мякка вымаўляюць гэта слова. Падчас вандровак мы ўзбагачалі свае веды па роднай мове і ўцягнуліся у гэтыя падарожжы настолькі, што літаральна кожны тыдзень ездзілі ў Слуцк. Такім фармальным повадам быў кірмаш, каб купіць вяндліны, знакамітых слуцкіх бэраў, яблыкаў ці гусь перад Калядамі. Але на самай справе гэта былі такія мужчынскія выезды, якія заканчваліся часам вогнішчам, чаркай гарэлкі, падсмажанай гуссю, якую мы маглі прыгатаваць сваімі рукамі. А самае галоўнае, што ўсё было звязана з тым, каб больш даведацца пра Радзіму, яе гісторыю. Мы бывалі ў Прусах, заязджалі ў Старыя Дарогі сустракаліся з вядомымі слуцкімі інтэлігентамі, праводзілі паэтычныя вечарыны для моладзі.

Наша кампанія падтрымлівала сяброўскія стасункі амаль два дзесяткі гадоў. У мяне як у сакратара гаркаму партыі, а пасля Міністра замежных спраў была ў той час машына. Я хачу сказаць, што нават працуючы чатыры гады міністрам, я не здрадзіў гэтай кампаніі, сваім сябрам, і некалькі разоў на месяц мы абавязкова наведвалі Слуцк, асабліва зімою. Хачу прыгадаць, што заўсёды за нашымі вандроўкамі, нашымі адносінамі з цікавасцю назірала Яўгенія Эргардаўна, жонка Максіма Лужаніна, пра якую хацеў бы сказаць вельмі, вельмі цёпла. Апошнія гады яна была нерухомая, сядзела ўвесь час у крэсле. У яе блішчэлі толькі вочы, настолькі яна цікавілася ўсім тым, што адбывалася вакол. Апошнія гады Аляксандр Амвросевіч адчуваў нейкую няёмкасць, таму што ён стаў знакамітым паэтам, а Яўгенія Эргардаўна знаходзілася ў яго паэтычнай цені. І ў апошнія гады ён рабіў усё дзеля таго, каб адрэдагаваць яе зборнікі, падрыхтаваць іх да друку. Ён і, асабліва, Анатоль Вярцінскі. З'явіліся, здаецца, тры паэтычныя кнігі, якія ёсць у маёй асабістай бібліятэцы. Я ганаруся тым, што Яўгенія Эргардаўна і Аляксандр Амвросевіч некалькі вершаў прысвяцілі маёй палітычнай дзейнасці. Ёсць вершы, якімі яны вітаюць мяне ў якасці міністра, што выступае ў Нью-Ёрку ў ААН. Ёсць вершы, прысвечаныя маім паездкам у іншыя краіны. У бібліятэцы я маю, як памятку пра выдатных літаратараў, практычна ўсе кнігі прозы і паэзіі гэтых творцаў.

Мне цяжка выступаць у ролі знаўцы падзей, якія адбываліся ў 30-я гады, але ў 80-90-я гады ў асобе Лужаніна я бачыў выдатнага чалавека, бліскучага нацыянальнага паэта. Падчас ягонага выступлення (на пачатку 90-х) у педінстытуце імя Максіма Танка я бачыў, як ён мог уплываць на моладзь. З якім захапленнем яна сустракала яго, вітала. Я прымаў удзел у гэтай вечарыне і добра памятаю, якое ўздзеянне на моладзь зрабіў яго верш "Маладосці ісці напрасткі", які я цытаваў падчас гэтай сустрэчы.

Максім Лужанін пісаў эпіграмы на вядомых беларускіх палітыкаў, у тым ліку і на кіраўніцтва Беларусі, тагачаснае і цяперашняе. Гэта быў незвычайны чалавек, які тварыў не толькі для людзей сённяшняга дня. Шмат што захоўваецца ў яго рабочым стале і можа быць надрукавана праз некаторы час. Практычна, ён працаваў кожны дзень. Вельмі позна клаўся спаць, а прачынаўся недзе а 10-й, 11-й гадзіне. Практычна ўвесь час чытаў, пісаў, назіраў за жыццём праз тэлевізію, усё вельмі тонка аналізаваў, быў у курсе ўсіх палітычных падзей, вельмі хваравіта рэагаваў на рэферэндум 1995 года, які знішчыў дзяржаўную мову. У палітыцы ён займаў дастаткова радыкальную пазіцыю, не прымаючы ўсяго таго, што адбывалася ў апошнія 10 гадоў. Чакаў светлай будучыні для Беларусі, марыў пра яе і рабіў усё магчымае, каб яе наблізіць.

**Пётр Краўчанка.**

**Максім Лужанін.**

## З ненадрукаванага

* * *

Не хаваю
  турботы слёзнай, —
Як пары той не шкадаваць:
Тут дамін
  не было высозных,
У калена расла трава.

Блізка вёсак вяліся лісы,
І заходзіў мядзведзь на мёд.
— Малачка
  можа б напіліся? —
Запрашалі з кожных варот.

Мне шкада
  запаветных нетраў,
Гурт дубоў у жывым галлі,
Дый чысцейшым
  было паветра —
Людзі добрыя ў ім раслі.

* * *

Клін зялёны,
Паміж Лагойскім
  і Маскоўскім,
Двума шасэ
Засявалі штогоду вёскі,
Потым вытапталі войскі:
І чужынцы, і абаронцы
Паскладалі галовы —ўсе!

А цяпер, як і калісь, зноўку
Жыта высыпала ў красе,
Драч скварэцца,
Пяюць салоўкі,
Пары любяцца у суцём.

Гора-горам.

  Жыццём-жыццё.



## Нарэшце своечасова

Нарэшце своечасова, за два месяцы да Новага года з'явіліся ў беларускіх крамах беларускамоўныя календары на 2005 год: адрыўны "Родны край" і перакідны "Асветнікі Беларусі".




Абодва календары выдадзены ў выдавецтве "Беларусь": "Родны край" - накладам 15 000 асобнікаў, "Асветнікі Беларусі" - 10 000 штук.

Безумоўна, гэта мізэрныя наклады, але кожны год "Родны край" дадрукоўваецца, быў бы толькі попыт.

*Яраслаў Грынкевіч.*






### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Грыцкевіч Анатоль, г. Менск - 4000 р.
2. Сяргейчык Аляксей, - 11000 р.
3. Удзельнікі шэсця ў Курапаты - 102970 р.

**Жыхары Бярозаўшчыны на выданне "Нашага слова":**

1. Касавец І. Я. (в. Старыя Пескі) - 2000 р.
2. Валошчык М. А. (г. Белаазёрск) - 500 р.
3. Валошчык Л. Р. (г. Белаазёрск) - 500 р.
4. Шчапёткіна Т. В. (г. Бяроза) - 1000 р.
5. Пунько В. Я. (в. Нівея) - 500 р.
6. Граяшчук А. Р. (г. Белаазёрск) - 500 р.
7. Лакішык А. Р. (г. Белаазёрск) - 1000 р.
8. Парфімовіч В. І. (г. Белаазёрск) - 500 р.
9. Валчок І. М. (г. Белаазёрск) - 1000 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Бела-русбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Лідзія САВІК

# ЛЁСАМ ПАЗНАНАЕ

## Да 70-годдзя Алеся Рыбака

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

*"Прыгадаў апошнюю, у канцы чэрвеня, паездку ў Макаўчыцы. Быў на могілках, дзе пахаваны бацькі, брат Лёва, дзед і баба. Там і родны дзядзька Даўнар. Помню яго як найвялікшага ў вёсцы жартаўніка. Неяк адразу пасля грамадзянскай вайны давялося яму пабыць у Амерыцы, тады яна пераджывала цяжкі крызіс. Доўга, прыехаўшы дадому, дзядзька Даўнар расказваў гісторыі, што ўсе ажно качаліся ад смеху. А яшчэ дзядзька вельмі любіў іграць на кларнеце..." "... Згадалася з дзяцінства: сястра Верка выходзіла замуж, пакідаючы нас са старэйшым братам у голай, халоднай і галоднай хаце. Забрала з сабою меншага брата Яшу. Забрала амаль усё. А мо так здавалася, бо ў нас нічога не было: Гэта быў 1945 год..."*

*"...Зноў з дзяцінства: восень, канец жніва. Галодныя, мы, хлапчукі – пастушкі, бегаем па ржышчы, шукаем няжатыя жменькі на краях поля. Думаем, мо там, па даўняй сялянскай традыцыі, жнеі пакінулі якія ласункі..."*

Відаць, не мог пісьменнік не выканаць свайго чалавечага і мастакоўскага абавязку – не напісаць пра перажытае ім самім, сям'ёй, блізкімі, аднавяскоўцамі, усім народам у цяжкія гады ваенных і пасляваенных выпрабаванняў. Вярнуўшыся з Масквы на радзіму, Алесь Рыбак у 70-80-я гады выдае зборнікі апавяданняў ***"Дарогі бываюць розныя"***, ***"Сёння прыедзе тата"***, ***"Апошняя канадзіроўка"***, ***"Што пасееш..."*** (аповесць, апавяданні, дзе адлюстроўваліся пераважна праблемы сучаснасці, а ў 1994 г. выходзіць галоўная яго кніга **"Абпаленыя крылы"**. Свае творы Алесь Рыбак пісаў у рэчышчы традыцый усёй беларускай літаратуры, яе выдатных дасягненяў 60-80-х гадоў, калі пачалі з'яўляцца праўдзівыя, грунтоўныя кнігі пра вайну В. Быкава, Я. Брыля, І. Навуменкі, І. Шамякіна, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, Я. Сіпакова, многіх іншых аўтараў і якія вылучаліся глыбокім пранікненнем у стыхію народнага жыцця ваенных, пасляваенных гадоў, новай ступенню гістарызму і пафасам сучаснасці, гуманістычнай аўтарскай пазіцыяй і ў якіх найперш адчувалася непазбежная арыентацыя на асабіста перажытае, уласны досвед і памяць. Аўтары асэнсоўвалі вайну з пазіцый высокіх маральных крытэрыяў чалавечнасці і праўды. Што характэрна і для творчай індывідуальнасці Алеся Рыбака, які, выкарыстоўваючы успамінальную рэтраспекцыю са свайго ваеннага дзяцінства, змог пераканаўча паказаць, як вайна выпрабоўвала дзяцей страхам, голада, горам, сіроцтва, а гэта нязменна выклікае ў чытача моцнае пачуццё суперажывання, разумення, спачування.

Успамінаючы, як ствараўся раман **"Трэба было жыць"** 1990 г. Рыбак адзначаў: *"Раман і сапраўды аўтабіяграфічны. Многія прозвішчы, імёны людзей, якія я ведаў, засталіся. Вядома, месцамі дзеянне зменена, як і назвы некаторых населеных пунктаў. Вайна пакінула ў маім сэрцы незагойны крывавы след. Я проста не мог яшчэ раз не вярнуцца да тых падзей, каб зноў асэнсаваць іх, цяпер на новым матэрыяле, такім блізкім мне..."*

Алесь Рыбак, дарэчы, заўсёды адчуваў падтрымку старэйшых пісьменнікаў: В. Быкава, А. Васілевіч, В. Каваленкі, прыхільнасць крытыкі.

*"Ужо на старонках першай сваёй кнігі Алесь Рыбак – аўтабіяграфічна усюды быў самім сабою. Ён заўсёды крочыў побач са сваімі героямі, нідзе не заставаўся безуважным да іх побыту, іх клопатаў і лёсу. Чытача падкупляе яго шчырасць і глыбіня псіхалагічнага спасціжэння людскіх учынкаў і паводзін. Як і яго ўласных – самога апавядальніка паводзін. Не выстаўляючы "наперад" сябе самога, не ўзносячы "німба святасці" над уласнай галавой, ён бачыцца толькі яшчэ больш зямным і прывабным..."* **(Алена Васілевіч).**

"...Варта адзначыць, што спадзяванні тых, хто верыў у далейшы росквіт таленту А. Рыбака, спраўдзіліся. Новая кніга прозы "Што скажаш, сын?" – гэта не толькі новая вышыня ў творчай дзейнасці пісьменніка, але і па маім глыбокім перакананні, і значная з'ява ва ўсёй сучаснай беларускай прозе. Асабліва высокімі ідэйна-мастацкімі вартасцямі вылучаецца аповесць **"Што скажаш, сын?"** (у пазнейшым варыянце выйшла пад назвай **"Што пасееш"**) – першы твор такога жанру ў пісьменніцкай біяграфіі А. Рыбака, які дагэтуль лічыўся чыстым апавядальнікам. Галоўная прычына поспеху перш за ўсё у тым, што ён зацікавіўся падзеямі не стандартнымі, але тыповымі для жыцця беларускага народа пасляваеннай пары. Яны тыповыя па лініі дабрату і гуманізму, якія спрадвеку ўваходзілі ў якасці неадменных рыс, у кодэкс народнай маралі..." **(Віктар Каваленка).**

*"...Усім складам свайго пісьма Алесь Рыбак пакazвае, што дзецям усё найлепшае далося ад маці, якая з'яўляецца ўвасабленнем традыцыйных і вечна жывых маральных пачаткаў, якія перамаглі бясхлебіцу і жорсткае ліхалецце, якія дапамаглі людзям не толькі выжыць, але і застацца на вышыні гуманістычнага народнага ідэалу. Надзвычай ёмістым, паўнакроўным, нестандартным, жыццёвым удаўся аўтару аповесці "Што пасееш" вобраз маці, нашай мужнай беларускай жанчыны. Без скідак можна гаварыць, што Алесь Рыбак адкрыў у літаратуры новы тып. А гэта ўжо ставіць яго ў адзін рад з лепшымі нашымі празаікамі...."* **(Валянцін Мыслівец).**

Часопіс "Дружба народаў", рэцэнзуючы кнігу аповесцяў, апавяданняў Алеся Рыбака, якая выйшла ў Маскве на рускай мове, адзначаў: *"Алесь Рыбак – один из тех, кого Светлана Алексиевич в своей книге "недетских рассказов" назвала "последними свидетелями": война, оккупация с такой неумолимой неотвратимостью вошли в детское сознание, что запечатлелись в нём навсегда. Пожалуй нет в этой республике художника, в чьём творчестве не отразилась бы война. Алесь Рыбак не стал исключением.*

*Уже высокими стали деревья, посаженные после войны на месте уничтоженных огнём ельников, уже взрослыми стали те, чьё детство выпало на военную пору, но война до сих пор неизбывна в их судьбе, в судьбах героев А. Рыбака. Будь то размышления Сергея Граковича о героической партизанской юности, о первой любви и вечной разлуке ("Последняя командировка"), или воспоминания о нелёгких послевоенных годах и сиротстве, голодном, холодном, но и независимым и независимом ("Человек под капюшоном, или неожиданная встреча Ганны Прокоповны с убийцей её мужа и ребёнка через много лет после войны", "Незабытое")... В каждом произведении, вошедшем в книгу, звучит эхо войны, но наиболее отчетливо – в повести, открывающей сборник... Писателю нравятся непредвиденные повороты сюжета, чудесные встречи, вещие сны, неожи-данные раскрытия тайны – этих "романных" случайностей достаточно в книге Алеся Рыбака, а впрочем, и в самой жизни...*

*Главное – то, что писатель вновь убеждает нас: человек должен быть совестливым, ответственным перед всеми – и теми, кто ушёл от нас, и теми, кто рядом с нами"* **(М. Вашкевич).**

Можна шмат прыводзіць цытат, дзе даюцца вызначальныя ацэнкі ўсяго зробленага ў літаратуры Алесем Рыбаком, хаця не абыходзілася і без крытычных заўваг, што зусім натуральна неабходна пры разглядзе творчасці кожнага пісьменніка. Паасобныя апавяданні Алеся Рыбака, урыўкі з аповесці "Што пасееш", рамана "Трэба было жыць" перакладаліся на рускую, англійскую мовы, друкаваліся ў часопісе "Дружба народаў", выходзілі ў выдавецтве "Советский писатель" у Маскве. Пісьменнік і сам займаўся перакладамі, калі, вярнуўшыся з Масквы, працаваў намеснікам адказнага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі і ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" рэдактарам аддзела прозы. І перакладаў ён з украінскай, літоўскай, чувашскай, мангольскай, урду і іншых моў. (Зборнікі перакладаў: "Заступнік дхармы", "Вясновыя птушкі", "Бурштынавыя пацеркі", "Ад школьнага парога", дзе змешчаны навелы, нарысы маладавядомых на Беларусі аўтараў, якія пераклаў Алесь Рыбак).

Апошнімі гадамі пісьменнік часта выступае як публіцыст. Яго публіцыстычныя артыкулы прасякнуты грамадзянскім пафасам, вызначальнасцю аўтарскай пазіцыі, для якой характэрна нязменная адданасць беларускай справе. Усё жыццё ён адстойваў і адстойвае беларускую нацыянальную ідэю, сваёй творчасцю ўносіць значны уклад у яе ажыццяўленне, ніколі і ні ў чым, ні пры якіх абставінах не адступаў ад сваіх поглядаў і перакананняў шчырага патрыёта сваёй зямлі.

Так на працягу многіх гадоў пісьменнік арганічна спалучаў грамадскую, працоўную дзейнасць, абавязкі клапатлівага сем'яніна з літаратурнай творчасцю. Ён застаўся верным сваім дзіцячым, юнацкім прыхільнасцям – дарагім сэрцу коласаўскім мясцінам, якія натхняюць яго ўсё жыццё, бо жыве тут дух вялікага беларуса, і гэта адчувае кожны, хто тут хоць раз пабывае. А Алесь Рыбак у Акінчыцах пабудаваў сваё лецішча, якое сябры-пісьменнікі называюць "Рыбаковай хатай", і яна знаходзіцца зусім непадалёку ад той хаты, дзе нарадзіўся Якуб Колас, ад Смольні, Альбуці і Мікалаеўшчыны, дзе і сёння па лясных і наднёманскіх сцежках, па якіх так любіў хадзіць Якуб Колас, быццам снуюць у бясконцых сялянскіх клопатах незабыўныя героі геніяльных коласаўскіх твораў.

А "Рыбакова хата" заўсёды гасцінна сустракае шматлікіх гасцей: сяброў, сваякоў, знаёмых, пісьменнікаў, і цёпла становіцца на душы, калі прыветнай усмешкай вас вітае мілая, добразычлівая гаспадыня гэтага надзвы ўтульнага, прыгожага куточка сярод выносістых сосен і клёнаў і міжволі згадваецца: "Мой родны кут, як ты мне мілы...", а яшчэ словы самога Алеся Рыбака з ягонага апавядання "Кветкі Пушкіну": ".. З якой жыватворнай крыніцы чэрпаюць гэтыя людзі сілу, жаданне працаваць не пакладаючы рук і дамагацца свайго, адкуль бяруць яны і праносяць праз доўгія-доўгія гады свае той цудадзейны бальзам, які жывіць і падтрымлівае іх нязгасную любасць адно да аднаго? Бо без яе, без сардэчнай прыхільнасці, чалавек, пэўна, згубіў бы крылі, сцэзнуў...". Як пра саміх сябе сказана, хоць гэтыя прачулыя словы адносяцца да герояў апавядання.

У Рыбаковыя юбілейныя дні хочацца паджадаць Алесю Пятровічу яшчэ доўгіх-доўгіх гадоў жыцця, моцы, творчага плёну, паспяховага здзяйснення ўсіх літаратурных задум.

## Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)*

**7. 07. 04. Серада.**

Сёння ездзілі з Полай Гільфоіл у Мулінгар—сталіцу графства Вестміт— у рэдакцыю газеты "Вестміт торік". Нас сустрэлі рэдактар Дзік Хоген, журналіст Даніэль Мабер і менеджэр Том Кернан. Я падаравала ім га-зеты "Наша слова" і "Новы час", а яны мне – сваю. Гаспадары паказалі мне, як друкуецца газета, цэх зна-ходзіцца тут жа, за сцяной. Там ва ўсю ішла праца: прымаліся нумары, запакоўваліся, перавязваліся і рассылаліся—развозіліся. Гэта было захапляльнае відовішча.



*Людміла Дзіцэвіч у рэдакцыі газеты "Вестміт топік" з рэдактарам Дзікам Хагэнам (справа) і журналістам Даніэлем Маберам.*



To Наша Слова from Dick Hogan, Editor

Westmeath TOPIC

Thursday, 8 July, 2004 Price €1.65 No. 1700

OFF TO THE U.S.A......

When the members of Mullingar Town Band set out on their much anticipated trip to Carolina, USA very early on Saturday of this week, July 10 they won't be wearing their usual uniforms because weather conditions won't allow. The sweltering heat expected will see the Band attired in more casual fashion. Displaying the existing uniforms and the new US-trip uniforms are (l. to r.) Karen Henty, Karl Magee, Laura Bracken, Rory Hughes, Maeve Ginnell and Brian O'Donovan.

Mullingar - Athlone Rail Link is "not re-opening"

IRISH RAIL CONTRADICTS VIEW OF DEPUTY MCGRATH

A spokesperson for Irish Rail has denied this week that there is any basis for speculation that the present condition of the Mullingar to Athlone railway link is being assessed by senior engineers with a view to re-opening, and contradicted a viewpoint expressed by Deputy Paul McGrath in recent days.

Mullingar residents upset by their unfinished estate

"I feel for residents, they have problems, but that is normal. Its par for the course," a Westmeath Co. Council official, Barnard Kroon, told Westmeath Topic last week, when asked about problems facing residents in the new Belvedere Hills housing estate at Ballinderry, close to St. Francis' Hospital, Mullingar.

CONTD. ON PAGE 2

ROCHFORTS (Tom Reilly Ltd)

Gifts for all occasions

Full colour photocopying available

*Тутэйшая газета.*



*Людміла Дзіцэвіч з Полай Гільфоіл у рэдакцыі газеты "Вестміт топік" з менеджарам Томам Кернанам.*

Потым Даніэль распытаў пра дабрачынную дзейнасць кілбэгэнскіх валанцёраў і пра беларускі фонд "Сакавік". Пазней ён падрыхтаваў артыкул і апублікаваў яго ў сваёй газеце.

Я мела цікавую і змястоўную гутарку з рэдактарам газеты і менеджэрам. Аказваецца, у газеце раней працавала Пола, якая і зладзіла нашу сустрэчу. Марк расказаў мне пра стан СМІ ў Ірландыі, пра становішча ірландскай мовы, адукацыю, культуру. Вядома, працаваць у газеце нялёгка, аднак прыватнае становішча дазваляе мець пэўную свабоду. Журналісты зарабляюць 400 даляраў у тыдзень, што па іхніх мерках даволі няшмат.

*(Працяг у наст. нум.)*

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Але блізілася 19-е жніўня 1991 года. Аднак распавядаць пра гэты лёсавызначальны час немагчыма, пакуль не будзе расказана пра такую з'яву, як антыкамунізм у Савецкай Арміі.

Камуністычную ідэалогію ў войску ўвасаблялі сабой не камуністы, дакладней, члены КПСС, якімі былі практычна ўсе афіцэры і многія прапаршчыкі. Камуністычную ідэалогію ўвасаблялі палітработнікі, больш правільна, нампаліты ў падраздзяленнях, начальнікі палітаддзелаў у частках, члены вайсковых радаў (ваенных саветаў) у штабах армій і вышэй.

Нампалітаў у войсках не любілі. Асабліва гэта тычыцца Войскаў супрацьпаветранай абароны. Спецыфіка тут была ў наступным. Калі ў сухаземных войсках нампаліт, прынамсі, мог весці байцоў у атаку, у авіяцыі нампаліт павінен быў лятаць, у Марфлоце нампаліты плавалі, то ў Супрацьпаветранай абароне нампаліт быў абсалютна бескарысным у баявой сітуацыі. У баявых разліках СПА для нампалітаў месца не прадугледжвалася баявымі статутамі. Па жыцці ў падраздзелах СПА нампаліт не ведаў і не мог выконваць абавязкі ні аднаго нумара разліку. Ад зачуханага салдата-першагодкі з якой-нібудзь дзікай азіяцкай ускраіны ў баі толку было больш, чым ад маёра з вышэйшай палітычнай адукацыяй. Нампаліты мабілізоўвалі падраздзелы на выкананне баявых задач, пры гэтым самі не ўмелі паварнуць ні аднаго шліца ў кабіне, ні адной ручкі на пускавой установцы.

Таму, калі нампаліты яшчэ і пачыналі здымаць стружку з баявых афіцэраў за незаканспектаваныя марксіцска-ленінскія работы ці матэрыялы чарговага з'езду, або за недахопы ў нясенні баявога дзяжурства, гэта выклікала глухое незадавальненне. Яно было тым большым, чым больш патрабавальным быў нампаліт.

У гады таталітарызму такое незадавальненне жорстка душылася, але падчас гарбачоўскай перабудовы канфліктная сітуацыя паміж афіцэрскімі масамі і нампалітамі пачала абвастрацца. Не магу сказаць, як гэта выглядала ў іншых месцах, у нашай частцы пачалося пагалоўнае ігнараванне ўсіх каманд і распараджэнняў нампалітаў. Ды яны і самі разумелі сітуацыю і на нізавым узроўні самі фактычна спынілі ўсялякую працу, дабіваючыся знешняй фармальнай бачнасці, што ўсё добра.

У гэты час пачалі набіраць сілу так званыя афіцэрскія сходы, і найбольш талковыя нампаліты пачалі працаваць цераз гэтыя сходы. Беларус, намеснік камандзіра каманднага пункта цэнтра Мікола Маргун прымкнуў да нашага беларускага руху, і займеў нашую падтрымку.

Тым не менш камуністычная сістэма валілася. Дзесьці афіцэры кідалі партыйныя білеты, у нас моладзь масава перастала плаціць партыйныя складкі. Аднак гэтая з'ява амаль не кранула беларускае зямляцтва. Я аддаў загад свайму аддзелу складкі да часу плаціць. Не ведаю, магчыма гэта было няправільна, але планавая нацыянальная дзейнасць мне падавалася важней за дзіцячы антыкамунізм, які не ішоў далей няўплаты гэтых самых складак і антыпартыйнай дэмагогіі. І ўсё ж першым у нашай частцы партыйны білет кінуў беларус Віктар Кулікоў з Магілёўшчыны.

А выглядала ўсё так.

У Кулікова дзед яшчэ да рэвалюцыі быў кавалём у нейкай графіні. Падчас рэвалюцыі яму трапіў у рукі грунтоўны скарб у золаце. Нейкім чынам, магчыма ў час НЭПу, дзед умудрыўся пакласці гэтае золата ў савецкі банк. Палова скарбу належала наўпростаму нашчадку па мужчынскай лініі, якую гэты нашчадак, у нашым выпадку Віця Кулікоў, мог узяць толькі на адкрыццё ўласнай справы (крамы, завода і г. д.), другая палова дзялілася паміж усімі жывымі дарослымі нашчадкамі. Такіх аказалася чацвёра: Віця, яго сястра і дзве цёткі. Але кожны з іх ізноў жа мог узяць сваю долю толькі са згоды Віктара.

Пасля Чарнобыльскай аварыі мясцовыя начальнікі прысталі да адной з цётак, каб яна аддала сваё золата на будоўлю новай бальніцы. Цётку, якая тога золата не бачыла і бачыць не вельмі рвалася, угаварылі хутка, а вось атрымаць згоду ад Віці было не так проста. Начальнічкі дачакаліся, калі ён прыедзе ў адпачынак, і прыставілі да яго чалавека з райкаму, каб той угаварыў Віцю падпісаць згоду. Ды не тут тое было. Віця ўпёрся. Яго пачалі паіць. Паілі два тыдні. Віця ні ў якую. Так Віця і ад'ехаць збіраўся. Нічога не падпісаўшы, але з ім у цягнік сеў свежы супрацоўнік райкаму. І магчымасці нават баявога маёра аказаліся ўсё-такі абмежаванымі. Дапіўшыся да чорцікаў з настырным райкамаўцам, на паўдарозе паміж Магілёвам і Масквою Віця падпісаў тую згоду.

Працверазіўшыся і зразумеўшы, на колькі яго "абула" родная партыя, Віця пасля прыезду адразу пайшоў да начальніка палітаддзелу і шпурнуў партбілет на стол. Ніякія ўгаворы на яго не падзейнічалі. Што з ім рабіць, камандаванне не ведала і проста махнула рукой, тым больш, што ўжо было лета 1991 года.

Партыя імкліва траціла вагу ў войсках. Прымаліся розныя меры, такія, як увядзенне вызваленых пасадаў сакратароў партарганізацый, правядзенне Ўсеармейскага партыйнага сходу... Ад нашай часткі трэба было вылучыць на той сход аднаго дэлегата. Камандаванне разумела, што афіцэры ні аднаго палітработніка на той сход не пусцяць, і прапанавала традыцыйна апалітычнага намесніка начальніка базы па ўзбраенні. Ён не выклікаў негатыўнай рэакцыі, і павінен быў прайсці па выніках галасавання, але нечакана на сходзе супраць яго выступіў Супаненка, якога тут жа падтрымала частка беларусаў і маса ўкраінскай моладзі. У чым справа? Аказалася ў Супаненкі ўзнікла ідэя паслаць на той сход беларуса. Давялося ўталкоўваць і Ігару, і ўкраінцам, што нашых інтарэсаў на тым сходзе няма.

Не памятаю добра, як канфлікт развязаўся, але ён паказаў сілу антыкамуністычнай большасці ў частцы і яшчэ раз падкрэсліў вагу беларускага зямляцтва.

Пасля ўсяго напісанага можа скласціся ўражанне, што ў войску было бязладдзе, што яно было некіраванае. Ні ў якім разе. Дысцыпліна з падзеннем уплыву кампартыі ніколькі не ўпала. Усе баявыя задачы выконваліся. Стрэльбы ішлі. Ішлі масштабныя вучэнні. Наадварот, вырас аўтарытэт камандзіраў, якія кіравалі не "горлам", а інтэлектам, якія не партбілетам размахвалі, а вялі ўдумлівую выхаваўчую працу, у тым ліку на індывідуальным узроўні.

*(Працяг у наступным нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 11. 2004 г. Замова № 2180.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
*Кошт у розніцу:* 290 руб. (у Менску - 310 руб.)